

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Касьцюковіцкія ўлады перасьледуюць Людмілу Леўчанку, актывістку Таварыства Беларускай Мовы. Спачатку яе пазбавілі працы па сумяшчальніцтву. А цяпер звольнілі з асноўнага месца выкладчыцкай працы. Нібыта па скарачэньні штатаў, але ніякай іншай працы не прапанавалі. Настаўніцу, што паўсюль прапагандавала родную мову, папросту выціскаюць з раёну. За яе ўступілася ТБМ і асабіста А.Трусаў, які заклікаў мясцовую ўладу "праявіць сумленьне". Але падаецца мне, што надзея на сумленьне чынавенства марная.

Чарговае паседжаньне аблвыканкаму надало вялікую ўвагу пытаньням эканомікі. Пра што ж ішла гаворка? Ды ўсё, на жаль, пра тое ж: трэба выкарыстаць усе рэзэрвы, трэба падвысіць дысцыпліну, трэба забясьпечыць... Пагадзіцца можна толькі з тым, што далей працаваць так, як цяпер, немагчыма. Гэта ж ня жарты, калі страты ад вырабленьня "адзінкі прадукцыі" удвая перавышаюць прыбыткі ад яе рэалізацыі. Аднак на нешта сапраўды рашуча-рынкавае ўлада не гатовая, таму і круціць старую кружэлку пра "скрытыя рэзэрвы і дысцыпліну".

Добра ўсё ж, што ёсьць вышэйшае начальства! Асабліва гэта дарэчы, калі эканоміка, вынікі працы, узровень абарачальнасьці сродкаў не даюць магчымасьці нешта зрабіць для людзей. Вось тады ўзгадваецца пра суворае слова "трэба!" – і ўсё вырашаецца. Менавіта загадам абавязаў старшыня аблвыканкаму Б.Батура разьлічыцца з працоўнымі па заробках да 25 сьнежня. Каталіцкія Каляды і Новы год будзе магчымасьць адзначыць больш-менш па-людзку. А там пабачым... На жаль, здаецца, менавіта такой лёгікай кіруецца нашая ўлада ня першы год сваёй працы і нашага жыцьця.

У абласным цэнтры прайшло паседжаньне калегіі Міністэрства транспарту. Гаворка ішла пра грамадзкі транспарт. Калі нехта чакае, што пачуе пра рэформы і якія навацыі – памыляецца. Калегія сама сябе нахвальвала за тое, што "не дапусьціла разбурэньня галіны і яе разбазарваньня" (так нашае "савецка-сацыялістычнае" чынавенства называе рынкавыя рэформы). Аднак жа нешта трэба рабіць з тым, што сёньняшні аўтамабільны парк, які абслугоўвае грамадзкія патрэбы, выпрацаваны амаль на 80 адсоткаў, а сродкаў на аднаўленьне, а тым больш папаўненьне, – няма. Вось пра тое і гаварылі. Ці знайшлі якое "не пажарнае" выйсьце, – невядома. Бо невядома, ці існуе такое ўвогуле.

У статыстычнай справаздачы іншым разам выяўляюцца досыць красамоўныя (бяз усялякага аналізу) лічбы і факты. Прыкладам, за апошнія 10 месяцаў мы з вамі, жыхары вобласьці, набывалі прадуктаў харчаваньня на 10 адсоткаў менш, чым раней. Нават гарэлкі набываем ажно на 33% менш звычайнага. Піць, зразумела, менш ня сталі. Проста даводзіцца людзям пераходзіць на больш танную "вінную" атруту, якая выпускаецца напрыканцы стагодзьдзя, відаць, толькі ў нашай жабрацкай краіне.

Напрыканцы агляду падзеяў не магу не адзначыць правядзеньня ў абласным цэнтры і шэрагу раённых (пра тое асобная інфармацыя на 1-й стар.) Дня правоў чалавека. Аднак ініцыятары публічных акцыяў у гэты дзень – актывісты мясцовай філіі Беларускага Хельсінскага Камітэту – не абвесьцілі пра гэта грамадзтва і сродкі масавай інфармацыі. Магчыма, на тое ў іх былі свае прычыны. Аднак хочацца нагадаць простую рэч: посьпех любой акцыі найперш залежыць ад яе папулярнасьці і шырокага прыцягненьня народнай ўвагі.

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

## Сумесная акцыя дабрачыннасьці

Ня першы раз сябры Сацыял-дэмакратычнай партыі Нямеччыны перадаюць праз сваіх магілёўскіх калегаў грашовую падтрымку састарэлым людзям. Днямі яны перадалі для разьмеркаваньня даволі значную (па нашых мерках) суму ў дойчмарках, папрасіўшы гэта зрабіць мясцовых сацыял-дэмакратаў Алеся Сердзюкова і Ўладзімера Лапцэвіча. Тыя разам з Чырвоным Крыжам і Таварыствам ахвяраў палітычных рэпрэсыяў вызначылі трох адзінокіх састарэлых жанчын, у бытавым жыцьці якіх нечаканая дапамога можа многае вырашыць.

Самотныя жанчыны, кожнай зь якіх за 70 гадоў, шчыра падзякавалі сацыял-дэмакратаў за дапамогу. Кацярына Паршанкова, Лідзія Маліноўская і Марына Румянцава сказалі, што за апошнія некалькі год не адчувалі да сябе такой цеплыні і ўвагі.

***Уласная інфармацыя***

### НАТАТКІ З ПРЭСАВАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ М.КОЗАКА

## У нас свой, эўрапейскі "востраў свабоды"...

***Амбасадар ЗША ў Беларусі Майкл Козак, які наведаў абласны цэнтар у мінулую пятніцу, у той жа дзень даў прэсавую канфэрэнцыю. Ад клясычнай (кароткае пытаньне – дынамічны адказ) яна адрозьнівалася імкненьнем да аргумэнтаванасьці як пытаньняў, так і адказаў, што больш нагадвала шчырую гутарку людзей, якія хочуць як мага лепш зразумець адзін аднаго. Гэта і ўдалося.***

Дыплямат падчас гаворкі зрабіў шэраг заяваў, якія адлюстроўваюць як сур'ёзнае стаўленьне Злучаных Штатаў Амэрыкі да Беларусі, так і высокую ступень дасьведчанасьці амбасадара ў беларускіх праблемах і справах.

Сп.Козак найперш падзяліўся прыемнымі ўражаньнямі ад прысутнасьці ў Магілёве. Асобна ён распавёў пра крanальныя пачуцьці, што спытаў на Буйніцкім полі. Менавіта ў сувязі з ахвярамі, якія панес беларускі народ у часе Другой сусьветнай вайны, зазначыў амбасадар, гэты народ заслугоўвае значна лепшай долі, чым тая, якую забясьпечвае яму цяперашні ўрад.

Гаворка перайшла да тэмы дэмакратыі і правоў чалавека, якімі Беларусь, на жаль, ня можа пахваліцца. Разам з тым, эканоміка таксама адчувае на сабе ўрадовы націск, які не спрыяе ейнаму разьвіцьцю й выхаду краіны з фактычнай міжнароднай ізаляцыі.

Дыплямат, адказваючы на пытаньне карэспандэнта "ТМ", зазначыў, што ў выпадку вяртаньня Беларусі на рэйкі дэмакратычнага разьвіцьця і ажыцьцяўленьня прадуманай эканамічнай палітыкі, яе чакае сур'ёзная падтрымка з боку ЗША і цывілізаванай міжнароднай супольнасьці. Аднак ніхто ня мае намеру навязваць краіне ніякае мадэлі разьвіцьця альбо нешта рабіць замест яе. Перш, чым нешта добрае падтрымаць, сказаў амбасадар, трэба, каб гэтае "нешта" зьявілася і мела тэндэнцыю да разьвіцьця. ЗША й сёньня ўкладаюць (бескарысьліва) у падтрыманьне некаторых гуманітарных праектаў у нашай краіне немалыя сродкі. Але яны ўзрастуць на некалькі парадкаў, калі ўсталюецца дэмакратыя, празрыстасьць дзяржаўных намераў, распачнуцца эканамічныя рэформы.

Што тычыцца выбараў, сп.Козак асобна падкрэсьліў, што каго, на які тэрмін і зь якімі паўнамоцтвамі выбіраць – гэта выключнае права самога народа, грамадзтва. ЗША ня мае ў гэтай



справе сымпатыяў, асабліва пэрсанальных альбо партыйных. Важна толькі тое, каб гэта быў сапраўдны выбар самога народа, праведзены па адкрытых, сумленных і дэмакратычных правілах. Калі прэзыдэнцкія, напрыклад, выбары, як нядаўна парлямэнцкія, пакінуць сумненьні ў сваёй легітымнасьці, – ЗША будзе ставіцца да іх адпаведна.

Пацікавіліся журналісты стаўленьнем ЗША да намеру аб'яднаньня Расеі і Беларусі. Сп.Козак зазначыў, што гэты працэс не выклікае ў яго падтрымкі па шэрагу важкіх прычынаў. Найпершая зь іх – адсутнасьць яснай і выразна заяўленай мэты стварэньня адзінай дзяржавы. Падаецца вельмі сумнеўным, каб такая аб'яднаная краіна здолела палепшыць жыцьцёвы ўзровень беларускага і расейскага народаў. Ня могуць не засмучаць міжнародную думку і тыя сумненьні наконт легітымнасьці беларускай Адміністрацыі, якія рэальна і абгрунтавана існуюць. Немагчыма безаглядна падтрымліваць тое, што заўтра можа займець зусім іншы напрамак. Спадар амбасадар пры тым асобна зазначыў, што пазыцыя ЗША ня ёсьць умяшальніцтвам ува ўнутраныя справы Беларусі. Аднак сваіх адносінаў да той ці іншай праблемы ЗША ніколі не хавалі і не зьбіраюцца гэтага рабіць.

Журналісты, карыстаючыся адкрытасьцю і шчырасьцю сп.Козака й маючы на ўвазе ягоны вялікі замежны дыпляматычны досьвед, папрасілі яго параўнаць, калі магчыма, беларускі рэжым зь якім падобным. Папярэдне дыплямат з жалем паведаміў, што беларускае Міністэрства замежных справаў адмовілася ад арганізацыі яго сустрэчаў з афіцыйнымі прадстаўнікамі мясцовай улады. Вельмі мала такіх кантактаў і ў сталіцы. Падобнае зь ім адбывалася, зазначыў амбасадар, калі ён працаваў на "высьпе свабоды" – на Кубе...

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***

## Наш шлях толькі пачынаецца

***Днямі з Польшчы вярнулася група беларускіх удзельнікаў міжнароднага сэмінару "Стратэгія і тактыка навучаньня правам чалавека", які быў арганізаваны польскім Хельсінскім фондам. Нататкі аб імпрэзе для "ТМ" падрыхтаваў кіраўнік Глускага клюба выбаршчыкаў Ігар КІРЫН.***

У офісе пад Варшавай, зручным для сэмінараў і пражываньня ўдзельнікаў вучобы, сабраліся запрошаныя польскім бокам пасланцы з "асноўных" постсавецкіх рэспублікаў, якія прадстаўлялі недзяржаўныя праваабарончыя грамадзкія арганізацыі. Дзяржаўнымі ўдзельнікамі 5-дзённых дыскусіяў былі работнікі сыстэмы адукацыі. Кіраваў сэмінарам, а таксама выступіў зь лекцыяй старшыня польскага Хельсінскага фонду Марэк Навіцкі. Падалося, што гэты вядомы навуковец і грамадзкі дзеяч добра ведае сытуацыю з правамі чалавека ў суседніх краінах. Дарэчы, яна, як выявілася падчас шчырых выступаў і спрэчак, прыкладна аднолькавая на постсавецкай прасторы. Аднак, на жаль, нават на гэтым фоне беларуская карціна адрозьніваецца найбольш змрочнымі фарбамі. Прызнаваў тое і сп.Навіцкі, які, зьвяртаючыся ў гаворцы да беларускіх праблемаў, даволі часта агаворваўся: тут праблема асобая...

Падчас разьвітаньня з знаёмымі і новымі калегамі я папрасіў кожнага падзяліцца меркаваньнем аб сэмінары. Вось што адзначылі:

***Ірына Шаруліч, настаўніца менскай сярэдняй школы:***

– Да гэтага сэмінара, трэба прызнацца, я не разумела ўсёй сваёй адказнасьці ў навучаньні падлеткаў правам чалавека так, як гэта разумею цяпер.

***Леанід Сьвецік, кіраўнік крычаўскага грамадзкага аб'яднаньня "Кантакт-цэнтар":***

– Да гэтага сэмінару ў мяне быў пэўны досьвед удзелу ў інтэрактыўных мэтодыках. Даводзілася працаваць на лекцыях і дыскусіях значна больш актыўна, чым тут. Але па іншых парамэтрах гэты сэмінар адрозьніваўся ў лепшы бок. Прыкладам, магчымасьцю пазнаёміцца з новымі людзьмі, прадстаўнікамі дзяржаўных структураў, якія таксама пачалі задумвацца аб тым, чым ёсьць правы чалавека ва ўсім цывілізаваным сьвеце.

***Данута Чыгір, сябра бабруйскага праваабарончага цэнтру "Вясна":***

– Было прыемна даведацца, што ў сваёй дзейнасьці мы рухаемся ў правільным напрамку. Адчула таксама патрэбу ў актывізацыі і ўзбагачэньні мэтодыкаў навучаньня правам чалавека. Удзячная таксама за знаёмства з новымі калегамі. Магчыма, што гэта пераўтворыцца ў якія сумесныя праекты.

...Удзельнікі варшаўскага сэмінара абмяняліся сваімі адпаведнымі выданьнямі. Аўтар гэтых радкоў, дарэчы, не чакаў, што калегі праявяць такую цікавасьць да брашуры, якую выдаў наш Клюб выбаршчыкаў пад саркастычным назовам "Бацькавы словы" (на некалькіх старонках бюлетэню сабраныя ў цытатах найбольш красамоўныя выказваньні Лукашэнкі).

### ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА







## ПЯЦЬ ГАДОЎ СЯБРОЎСТВА І ПРАЦЫ (ФОТАРЭПАРТАЖ У ПРАЦЯГ ТЭМЫ)

**... Некалькі папярэдніх дзён клопатаў і хваляваньняў сябраў магілёўскага ГА "Кола сяброў" перад сьвяточна-дзелавой імпрэзай з нагоды свайго 5-годзьдзя цалкам апраўдаліся добрым узроўнем правядзеньня прэзэнтацыйных мерапрыемстваў напрыканцы мінулага тыдня. Шматлікія госьці, то бок калегі па супрацоўніцтву на ніве пабудовы Адкрытага грамадзтва з рэгіёну і ўсёй краіны, з замежных дзяржаўных прадстаўніцтваў і недзяржаўных фондаў, непасрэдна даведаліся пра жыцьцё і справы "КС" у часе сьвяточна-дзелавых пятніцы й суботы. Гасьцям падабаўся горад, па якім была наладжаная цікавая экскурсія, а таксама падабаўся канцэрт, дабрачынна дадзены для ўдзельнікаў імпрэзы таленавітымі партнэрамі-сябрамі грамадзкага аб'яднаньня...**

**А гаспадарам падабаліся шчырыя словы віншаваньняў і падарункі. І ўсім падабаліся жарты і самагіронія, зь якімі паставіліся да сябе і здабыткаў сваёй працы віноўнікі сьвята...**

**Гавораць, што адпачываць ня ўмеюць тыя, хто ня ўмее працаваць. Пра "Кола сяброў" такога ня скажаш, аб чым сьведчыць гэты фотарэпартаж Дзяніса НОВІКАВА і Аляксандра ЛІЦІНА. За пяць гадоў сяброўства і працы такое было ўпершыню. Застаецца спадзявацца, што не ў апошні раз...**





## Кніжныя навінкі

**Напрыканцы мінулага месяца дзякуючы намаганьням Крычаўскага грамадзкага аб'яднаньня "Кантакт-цэнтар" пабачыла сьвет брашура "У пошуках беларускасьці".**




Яна прысьвечаная малавядомым і наогул невядомым старонкам гісторыі Крычава. Русыфікацыя нашага Краю, што праводзілася асабліва жорстка пасьля 1917 году, практычна сьцёрла памяць крычаўцаў пра свае гістарычныя і нацыянальныя карані. І гэта неглядзячы на тое, што крычаўцы на працягу доўгіх вякоў зь мячом і крыжом ахоўвалі сваю радзіму ад ворага. Горад быў надзейным фарпостам Беларусі на яе ўсходніх межах.

Брашура "У пошуках беларускасьці", не прэтэндуючы на навуковасьць, зрабіла спробу нагадаць пра тое, што гісторыя Крычава пачалася ня з моманту першай савецкай акупацыі, а яшчэ за восем стагодзьдзяў да гэтай змрочнай падзеі.

---

**Учора ў магілёўскім польскім Доме адбылася прэзэнтацыя спэцыяльнага выпуску недзяржаўнага грамадзкага часопіса "Магілёўская даўніна". Выпуск гэты выдадзены асобнай кніжкай пад назовам "Край" з падназовам "Дыялёг на сумежжы культураў".**

Кніжка, амаль у 300 старонак накладам 700 асобнікаў, уяўляе сабой збор навуковых і публіцыстычных артыкулаў беларускіх і польскіх аўтараў, што незалежна выказваюцца па актуальных пытаньнях гісторыі і аднаўленьня міжкультуровых стасунках суседніх краінаў. У прадмове да выданьня (дарэчы, прыстойна надрукаванага ў абласной друкарні) рэдактары і складальнікі кніжкі А.Агееў і Я.Іваноў (абодва – выкладчыкі магілёўскага пэдагагічнага Ўнівэрсытэту) нагадваюць, што Беларусь і Польшчу зьвязваюць 6 стагодзьдзяў шчыльных адносінаў. Дастаткова ўзгадаць прозьвішчы Міцкевіча і Сыракомлі, Баршчэўскага і Чачота, Агінскага і Манюшкі, якія яднаюць нашыя краіны, каб прызнаць беларуска-польскую ўзаемапранікнёнасьць. На жаль, адзначаюць аўтары, трэба нанова даводзіць беларускаму грамадзтву неабходнасьць блізкіх стасункаў з роднаснай краінай, бо пад націскам афіцыйнай прапаганды беларусам іншым разам здаюцца больш блізкімі Сахалін з Магаданам, чым Варшава зь Беластокам...

Прэзэнтацыя выклікала пэўную цікавасьць у навуковых і культурніцкіх колах абласнога цэнтру.

МАГІЛЁЎСКАЯ ДАЎНІНА



POLONICA LITHUANICA
ALBARUTHENICA



КРАЙ ◆ KRAJ

Дыялог на сумежжы культур

Магілёў 2000

## АД СВАЙГО ІМЯ

# Цынічная чарга па душы інвалідаў

***3 сьнежня прайшоў Міжнародны Дзень інваліда. У цывілізаваных краінах інваліды – такія ж людзі, як і ўсе, яны могуць спакойна працаваць, і ніхто не папракне чалавека, на якога звалілася гора, за тое, што ён нечага ня можа. Нават я ведаю аднаго прадпрымальніка-інваліда на Ўкраіне, дзеля якога ўлады стварылі адмысловыя ўмовы працы. А ў нас...***

1 сьнежня мне давялося прысутнічаць на мерапрыемстве, што было прысьвечанае Дню інваліда, у дзіцячай школе мастацтваў, што па праспэкце Шмідта. Відовішча, якое я пабачыў, можна назваць хіба толькі зьдзекам. Нас сабралі ў залі, прымусілі паслухаць канцэрт, а потым запрасілі да сталоў, дзе выдалі дапамогу ў памеры 3000 рублёў! Здавалася б, што ж тут такога, радавацца трэба: паслухаў канцэрт, а потым атрымаў дапамогу. Але, шаноўнае спадарства, тут ёсьць свае нюансы.

Справа ў тым, што ў мінулым годзе я таксама атрымліваў дапамогу, – такую ж суму на цяперашнія грошы. Але ж тады за іх можна было хоць нешта купіць. Мала таго, што грошы выдаваліся бабулькам ды дзядулькам пад ціскам здушлівага натоўпу, дык яшчэ каля школы іх чакалі бічаватага выгляду людзі, каб і гэтыя невялічкія грошыкі адабраць. Вось такое сьвята...

А можна ж было зрабіць паіншаму. Можна было прысланць грошы па пошце, разам з пэнсіяй, ці выдаць дадатковай ведамасьцю. Можна было б прысутнасьць на канцэрце зрабіць добраахвотнай, бо ня ўсе ж маюць столькі сілаў ды ахвоты, каб абавязкова цягнуцца на яго.

Што казаць, інвалідаў на Беларусі не шануюць. Пэнсію маем мізэрную (мінімальная для непрацуючага без стажу за лістапад склала 13456 руб.). Некаторыя кажуць проста ў вочы: гэта твае праблемы, ідзі і ўладкуйся на працу! Аднак у нашай службе занятасьці вам адкажуць, што яны й здаровых уладкаваць ня могуць...

Між тым, відавочна, што інвалідаў стараюцца выкарыстаць усе. Ад п'яніцы, які адбірае пэнсію, да дырэктараў розных прадпрыемстваў, якія плацяць інваліду меней, матывуючы гэта ягонай абмежаванай дзеяздольнасьцю. Асобна ў гэтым цынічным шэрагу стаяць чыноўнікі. Некаторыя зь іх падчас нядаўніх выбараў нават пагражалі, што кошты паўторнага галасаваньня будуць пакрытыя за кошт... сацыяльных патрэбаў! Такім чынам інваліды, што ў сваёй большасьці атрымліваюць сацыяльную пэнсію, сталіся яшчэ й закладнікамі патрэбнай уладзе палітычнай кампаніі.

Між тым, інваліды служаць грамадзтву ня горш за здаровых людзей. Спасярод іх ёсьць сьвятары і журналісты, кампазытары й настаўнікі, бізнэсмэны й палітыкі. Відавочна, што трэба зьмяніць дзяржаўную палітыку ў дачыненьні да інвалідаў. Напрыклад, замест таго, каб выдаткоўваць народныя грошы на розныя інтэграстычныя праекты, кшталту аб'яднаньня з Расеяй, на будаўніцтва шыкоўных звонку спартовых палацаў ды нікому не патрэбных візытаў кіраўніцтва ў "трэція краіны", лепш было б пусьціць іх на падвышэньне ўзроўню жыцьця самай пакутнай часткі грамадзтва – інвалідаў.

*Сяржук ГІРКІН*

Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.
Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 49. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 14.12.2000 г. а 17.05.